«Народная Воля» в Facebook www.facebook.com/nv.online.info, в Vkontakte www.vk.com/nvonlineinfo

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***


№ 75 (4635)

1 кастрычніка 2021 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.


9 772071 964000 21075


# Народная Воля

**СКАЗАНО!**



## А.Лукашенко: Для обеспечения динамики дальнейшего развития белорусского общества, корректировки внутренней и внешней политики в стране объективно назрела потребность к переменам.

*(Из вчерашнего выступления перед послами девяти государств.)*

Кто может сказать: «Я не согласен с этим высказыванием Лукашенко?» Пожалуй, никто. Но подобные слова произносились и раньше. И не один раз. А перемен как не было, так и нет. Как существовала авторитарная власть десять-двадцать лет назад, такой она является и сейчас. Как не допускались в парламент те, кто оппонирует власти, так и не допускаются. Как сидела в кресле председателя Центральной избирательной комиссии Л.Ермошина, так и сидит. Как не обновлялся Избирательный кодекс, так и не обновляется. Как не было действенных реформ в экономике, так нет их и теперь. Как были мизерные зарплаты и пенсии, такие они и в данное время…

Словом, о переменах только говорильня, а когда же они наступят?

**ЭКСКЛЮЗІЎ**



## Генадзь БУРАЎКІН: «Стандарты дыктатуры і стандарты дэмакратыі супасці не могуць»

*АД РЭДАКЦЫІ*

Сёлета споўнілася 85 гадоў з дня нараджэння Генадзя Бураўкіна. І ўжо сем гадоў яго няма з намі – Паэта і Грамадзяніна, чыё жыццё прайшло пад знакам высокага служэння роднай літаратуры і Бацькаўшчыне.

Працуючы на высокіх пасадах (старшыня Дзяржкамітэта па тэлебачанні і радыё БССР, паўнамоцны прадстаўнік Рэспублікі Беларусь у ААН, намеснік міністра культуры), ён заўсёды адстойваў беларускія нацыянальныя інтарэсы, клапаціўся пра пашырэнне беларускай мовы, падтрымку беларускай культуры. Таму і быў вымушаны пры прэзідэнцкай уладзе сысці ў адстаўку, хоць меў вялікі досвед працы ва ўладных структурах і мог прынесці шмат карысці маладой дзяржаве і народу.

Народу ён усё ж паслугаваў – толькі ўжо як выдатны паэт, непераўзыдзены лірык, на чые вершы напісаны папулярныя песні, якія сталі сапраўднымі візітоўкамі Беларусі. Паэтычныя творы Генадзя Мікалаевіча амаль цалкам апублікаваны (апошняя прыжыццёвая кніга «Нагаварыцца з зоркамі» выйшла за некалькі дзён да смерці).

Бясспрэчна, зацікавяць чытачоў і дзённікавыя запісы паэта, якія зберагаюцца ў сямейным архіве. Першымі з імі маюць магчымасць пазнаёміцца чытачы «Народнай Волі», за што мы выказваем шчырую ўдзячнасць Юліі Якаўлеўне Бураўкінай. Запісы (іх хопіць на некалькі тамоў) рабіліся на працягу многіх гадоў пераважна на лецішчы ў Крыжоўцы. Мы выбралі для публікацыі нататкі за 2012 і 2013 гады.

*(Фрагменты дзённікавых запісаў Генадзя Бураўкіна чытайце на 6-й стар.)*

**COVID-19**

## Вікторыя СЕМЯНКОВІЧ, загадчыца рэанімацыі ў Вілейцы: «Страшна, што хварэюць маладыя людзі»

*29 верасня загадчыца рэанімацыі Вілейскай раённай бальніцы **Вікторыя Семянковіч** правяла сустрэчу з работнікамі дарожнага рамонтна-будаўнічага ўпраўлення, на якой паведаміла пра сітуацыю з каранавірусам у рэгіёне, а таксама параўнала яе з сітуацыяй у Маладзечне і Слуцку.*

*«У Вілейцы на сёння складваецца такая сітуацыя, што ў чацвёртую хвалю масава хварэюць моладзь і дзеці. Захворванне працякае вельмі хутка, стан людзей пагаршаецца за два-тры дні»*, – распавяла на сустрэчы Вікторыя Віктараўна.

Яна паведаміла, што ўрачы іх аддзялення прышчэплены на 100%: ніхто з супрацоўнікаў не хварэў ні ў адну хвалю. *«Калі прышчэплены і хварэе, то ў лёгкай форме, не трапляючы ў бальніцу,* – кажа доктар. – *У Вілейцы ў аддзяленні цяпер ляжаць 70 чалавек, у рэанімацыі – 9. Сярод іх няма ніводнага прышчэпленага чалавека. Такую статыстыку мы прыводзім для скептыкаў. У Маладзечне ляжаць 189 хворых з COVID-19. У Слуцку – за ўчарашні дзень 393. Ніхто з іх не прышчэплены».*

*«Страшна, што хварэюць маладыя людзі, кожная новая хваля амалоджваецца. Вельмі шмат хварэе дзяцей. У Маладзечне на базе дзіцячай бальніцы адкрыта аддзяленне на 50 ложкаў, усё аддзяленне занята. Дзеці хварэюць не так цяжка, як дарослыя, але яны вельмі моцна распаўсюджваюць інфекцыю»*, – падкрэслівае Вікторыя Семянковіч.

Паводле яе слоў, усе людзі, у якіх ёсць хранічныя захворванні, напрыклад цукровы дыябет, павінны прышчапляцца ў першую чаргу.

*«Хвароба працякае не як пнеўманія. У пацыентаў масіўнае тромбаўтварэнне, забіваюцца лёгкія, людзі не могуць зрабіць ўдых і не могуць адкашляцца»*, – кажа доктар.

**КУЛУАРЫ**

## Хто з еўрапейскіх дыпламатаў застаўся ў Беларусі?

*Учора А.Лукашэнка прымаў даверчыя граматы ад новых амбасадараў, якія прыехалі працаваць у Беларусь. Сярод іх не было ніводнага дыпламата з еўрапейскіх краін.*

Як паведамляе прэзідэнцкі сайт, даверчыя граматы ўручылі дыпламаты з **Азербайджана, Арменіі, Індыі, Інданезіі, Лівана, Малайзіі, Манголіі, Туніса** і **Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі.**

Год таму ў Мінску засталіся паслы толькіх дзвюх з 27 краін Еўрасаюза – **Італіі** і **Аўстрыі**. Астатнія былі адкліканы ўрадамі сваіх краін для правядзення кансультацый.

Чарговае абвастрэнне адносін паміж еўрапейскімі краінамі і беларускай уладай адбылося пасля таго, як у дачыненні да беларускіх чыноўнікаў пачалі дзейнічаць санкцыі. МЗС Беларусі тады адклікаў нашых дыпламатаў з **Літвы** і **Польшчы** і прапанаваў паслам гэтых краін пакінуць Беларусь. Таксама ў Мінску няма амбасадараў **Латвіі**, **Эстоніі**, **Славакіі**, **Германіі**.

Напрыканцы ліпеня амбасадар Еўрасаюза ў Беларусі **Дзірк Шубель** вымушана пакінуў Мінск і адправіўся ў Брусель для кансультацый – па рэкамендацыі беларускага МЗС. Таксама з'ехалі з Мінска прадстаўнікі амерыканскай дыпламатычнай місіі.

Але некаторыя еўрапейскія дыпламаты засталіся ў Мінску. Так, вельмі плённа працуе амбасадар Францыі **Нікаля дэ Лакост** – між іншым, ён яшчэ не ўручаў даверчыя граматы А.Лукашэнку.

Літаральна тыдзень таму кіраўніцтва МЗС сустракалася з Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Італьянскай Рэспублікі **Марыё Бальдо** і Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Турэцкай Рэспублікі **Мустафой Азджанам.**

**Вера ВІР.**

**БУДЗЬЦЕ ЗДАРОВЫ!**

## Пік захворванняў пакуль не наступіў?

*З 15 верасня колькасць выпадкаў за дзень не апускаецца ніжэй за 1900.*

Міністэрства аховы здароўя праінфармавала, што за апошнія суткі зафіксавана 1989 выпадкаў захворванняў на каранавірус.

Днём раней паведамлялася пра 1993 выпадкі. Максімум быў у мінулую пятніцу – 1994.

З пачатку пандэміі былі зарэгістраваны 538.086 чалавек са станоўчым тэстам на каранавірус. За ўвесь час памерлі 4143 чалавекі (за апошнія суткі – 14).

**ДАРЭЧЫ**

## Беларуская турфірма запусціла туры на вакцынацыю

*Падчас паездкі ва Украіну прапануюць прышчапіцца еўрапейскімі вакцынамі Pfizer або AstraZeneca і атрымаць сертыфікат*

Гэта двухкампанентныя вакцыны, а таму ў тур давядзецца з'ездзіць двойчы. Другі ўкол Pfizer робяць не раней як праз 21 дзень, AstraZeneca – праз 28 дзён. а прышчэпку турфірма просіць 55 долараў, сам тур каштуе 85 еўра плюс 50 рублёў за турыстычную паслугу. Такім чынам, поўны курс вакцынацыі абыдзецца ў 293 долары.

**СУМНА!**

## Пасля выбараў Следчы камітэт завёў больш за 5 тысяч крымінальных спраў, звязаных з пратэстамі

*Пра гэта паведаміла БелТА са спасылкай на намесніка кіраўніка Следчага камітэта **Алега Шандаровіча.***

Паводле слоў чыноўніка, у мінулым годзе такіх злачынстваў было каля 1,7 тысячы, за дзевяць месяцаў гэтага заведзена каля 3,3 тысячы спраў. Справы, звязаныя з пратэстамі, складаюць усяго 5,5% ад агульнага масіву крымінальных спраў па краіне.

Зараз завершана расследаванне па 2 тысячах пратэстных крымінальных спраў у дачыненні да амаль 1,5 тысячы чалавек.

Напрыклад, па карагоднай справе ў Брэсце крымінальнае расследаванне вялося ў дачыненні да 129 чалавек, у дачыненні да 104 з якіх яно скончана, справы перададзены пракурору. Аднак устанаўленне максімальнай колькасці ўдзельнікаў працягваецца.

Зараз у вытворчасці знаходзяцца каля 1,1 тысячы крымінальных спраў у дачыненні да больш за 1,2 тысячы чалавек.

Алег Шандаровіч падкрэслівае, што для ўсходніх рэгіёнаў Беларусі пратэстная актыўнасць была менш характэрная. У Віцебскай, Магілёўскай і нават Гомельскай абласцях значна менш заведзена крымінальных спраў, чым у Мінску, Гродне і Брэсце.

**З-ЗА КРАТАЎ**



## «Я вас люблю! Як вы там?..»

*Жонка мастака Алеся Пушкіна – пра апошнія навіны ад мужа.*



Нагадаем: 30 сакавіка **Алеся Пушкіна** затрымалі ў вёсцы Жылічы Кіраўскага раёна, дзе ён працаваў на рэстаўрацыі палаца Булгакаў. Падставай для гэтага стаў партрэт антысавецкага падпольшчыка Яўгена Жыхара, які быў выстаўлены ў прыватным «Цэнтры гарадскога жыцця» ў Гродне.

*«Апошняя паштоўка ад Алеся прыйшла 30 верасня,* – паведаміла «Народнай Волі» Яніна, жонка мастака. – *Увогуле, паведамленні ад яго прыходзяць прыкладна раз на паўмесяца, апошнім часам яны досыць кароткія.*

*Сын Міколка ў гэтым годзе паступіў у Гродзенскі медыцынскі ўніверсітэт, таму Алесь цікавіцца, як у яго вучоба. Паведаміў, што мой ліст да яго ішоў амаль два тыдні.*

*А вось пра тое, што патрапіў у карцар, нічога не пісаў, таму нават і не ведаю, ці праўдзівая тая інфармацыя, што з'явілася аднекуль у інтэрнэце. Заканчваюцца лісты і паштоўкі традыцыйна: «Я вас люблю! Як вы там?»*

**Сяргей ЗАБЛОЦКІ.**

## Аляксандр ФЯДУТА: «Калі прынеслі пошту – радуюся, калі не – спадзяюся»



*Што піша з-за кратаў вядомы літаратуразнаўца, палітолаг, журналіст **Аляксандр Фядута**, затрыманы ў красавіку ў Маскве па «справе аб дзяржперавароце»?*

Мяркуючы па лістах, Аляксандр Іосіфавіч і за кратамі не спыняе літаратурна-даследчай дзейнасці – піша каментарыі да рамана Уладзіміра Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім»: *«Па-ранейшаму важдаюся са сваім Караткевічам. Прыкладна 40% намечанага гатова… Следчаму адаслалі першыя чатыры сшыткі з маімі рукапісамі. Калі ў яго не будзе пярэчанняў, спадзяюся, яны трапяць у друк…»*

Глыбокі знаўца рускай літаратуры, Фядута з самаіроніяй прызнаецца, што ў СІЗА КДБ упершыню прачытаў раман Маргарэт Мітчэл «Унесеныя ветрам» і зрабіў для сябе адкрыццё: аказалася, што раман, які ён адносіў да «дамскай літаратуры», уяўляе сабой *«раскошную, вельмі жорсткую прозу». «Кніга амерыканскай хатняй гаспадыні (Маргарэт Мітчэл) напісана нікольні не горш за кнігу рускага хатняга гаспадара (Льва Талстога)… З часоў Тэкерэя я не чытаў кніг, аўтары якіх адначасова так любілі б сваіх герояў і былі б настолькі да іх суровы»*, – прызнаецца вядомы літаратуразнаўца.

Наконт бытавых умоў Аляксандр Іосіфавіч паведамляе: *«Ацяпленне ў нас уключылі, але жывём мы ў світэрах і тэрмабялізне».*

Дарэчы, у СІЗА Фядута зрабіў прышчэпку ад кавіду – расійскі «Спутник V»: *«Абодва ўколы я перанёс, практычна нічога не адчуўшы. Рэкамендую ўсім. Але, зразумела, па жаданні».*

Пра распарадак дня Аляксандр Іосіфавіч піша так: *«Вечарам атрымліваю лісты. На некаторыя адказваю адразу, асабліва мастацкія пакідаю на наступны дзень, каб павыдасканальвацца ў фармулёўках і прадэманстраваць адрасату: маўляў, і мы валодаем мастацтвам слова! А вечарам – новая пошта. Калі штосьці прынеслі – радуюся, не – спадзяюся».*

**ІХ ДЭМАКРАТЫЯ**

## Нікаля Сарказі асудзілі на год пазбаўлення волі

Папраўчы суд Парыжа прызнаў 23-га прэзідэнта Францыі **Нікаля Сарказі** вінаватым у незаконным фінансаванні выбарчай кампаніі і асудзіў яго на год пазбаўлення волі, паведамляе *BFM TV*. Сарказі будзе адбываць тэрмін па-за турмой і з электронным бранзалетам.

Суд прызнаў, што Сарказі падчас перадвыбарнай кампаніі ў 2007 годзе перавысіў ліміт выдаткаў, усталяваны законам. Згодна з заявай суда, Сарказі працягваў праводзіць мітынгі, калі патраціў больш за 42 мільёны еўра замест дапушчальных 22 мільёнаў.




У сакавіку Сарказі быў асуджаны да трох гадоў турэмнага тэрміну паводле абвінавачання ў карупцыі і гандлі ўплывам. Тады паведамлялася, што ён павінен адбыць год у турме, а два ўмоўна.

Народная Воля http://www.nv-online.info 1 КАСТРЫЧНІКА 2021 г.

ОТКРОВЕННО

## Микита МИКАДО, основатель PandaDoc:

# «Сейчас невозможно привозить людей в Беларусь»

IT-компания PandaDoc, занимающаяся электронным документооборотом, на прошлой неделе сообщила о завершении очередного инвестраунда, по итогам которого она теперь оценивается в миллиард долларов. Новость о том, что стартап с белорусскими корнями и штаб-квартирой в США достиг столь высокой оценки у инвесторов, или, как говорится, стал «единорогом», появилась после того, как в Беларуси было закрыто уголовное «дело PandaDoc». Год назад на волне протестов после президентских выборов в Беларуси в офисе компании в Минске прошли обыски. Четверо сотрудников были задержаны – их обвинили в мошенничестве в особо крупном размере. Позже троих отпустили, а менеджер по продукту **Виктор Кувшинов** вышел на свободу лишь в августе 2021 года – спустя почти год после задержания.

Один из основателей компании **Микита Микадо**, проживающий сейчас в США, рассказал об оттоке IT-специалистов из Беларуси и перспективах сферы высоких технологий в РБ при Лукашенко.




**Микита Микадо:** – Я в 19 лет поехал в США по программе Work&Travel – работать за минимальную зарплату, переворачивал бургеры в аэропорту. Потом начал делать сайты, затем мы с моим партнером Сергеем Борисюком создавали программное обеспечение для веб-дизайнеров.

Потом сделали первый бизнес по производству расширений и по сервисной разработке. После решили производить продукт для собственных нужд и потратили все деньги, которые скопили на сервисной разработке. У нас ничего не получилось, никто не хотел нам платить. Мучались, наверное, года два. Но потом вырулили, придумали, как сделать так, чтобы продукт имел ценность, и нам начали платить.

Мы нашли людей в США, у которых есть талант в маркетинге, и сумели объединить белорусскую техническую экспертизу и американскую экспертизу в продажах. Так по чуть-чуть и получился PandaDoc, всему научились в процессе. Переехав в Америку, я и по-английски с трудом разговаривал.

**– А сегодня про PandaDoc пишут как про первого «единорога» с белорусскими корнями.**

– Это не первая компания с белорусскими корнями, которую оценили подобным образом. Есть публичные компании с истоками в Беларуси – тот же EPAM. Есть огромное количество компаний, у которых был офис в Беларуси или, может быть, всё еще есть офис в Беларуси и которые тоже очень сильно выросли за последнее время. Когда-то и у нас в Беларуси был самый большой региональный офис. Сегодня компания в Минске ликвидирована.

**– Вы находитесь в США. А ваши сотрудники?**

– У нас сегодня более 650 сотрудников – в США несколько сотен. Юрлица есть в Украине, на Филиппинах, в Польше и Португалии. Много сотрудников эмигрировало из Беларуси. Некоторые из них работали в нашем офисе в Минске, кто-то просто уехал в Украину или Польшу после выборов и сейчас приходит к нам на работу. Собственно, мы и юрлицо в Польше открыли только потому, что туда приехало очень много белорусских айтишников. В украинском офисе у нас больше ста человек. Но сколько из них белорусов, я, если честно, сейчас не скажу. Есть некоторая миграция людей между Украиной, Польшей и Португалией. Кто-то мечтает о солнце, кто-то хочет говорить по-русски.

**– Что статус «единорога» даст компании?**

– Наверное, нам будет проще нанимать людей. Имидж компании как нанимателя улучшится.

**– После выборов-2020 года вы и сооснователь PandaDoc Сергей Борисюк объявили о создании частной инициативы помощи силовикам, которые решили сменить профессию. Компания из-за этого пережила репрессии, уголовное дело. Но, возможно, это помогло также повысить узнаваемость, усилить бренд – все-таки вы не остались в тот момент в стороне...**

– Я не знаю. Но это точно было очень тяжелое время для компании. Да, PandaDoc вырос за последний год, но он и до этого рос очень быстро. Плюс пандемия ускорила наш рост. Всё больше и больше компаний подписывались на этот продукт по электронному документообороту. Сейчас у нас десятки тысяч клиентов в англоязычных странах. Пока продукт работает только на английском языке, хотя планируем в ближайшее время выпуск PandaDoc еще на пяти языках.

**– В Беларуси вы входили в Парк высоких технологий, что давало право компании на налоговые льготы. Потеря этих льгот – ощутимая потеря?**

– Налоговые льготы для продуктовой компании – это, конечно, неплохо, но самое главное – это люди, с которыми ты работаешь и которые приходят в компанию.

*Стоимость PandaDoc достигла 1 миллиарда долларов. Новость о том, что стартап с белорусскими корнями стал «единорогом», появилась после того, как в Беларуси было закрыто уголовное дело против сотрудников компании.*

Продуктовые компании получаются там, где есть таланты, а не там, где организованы кластеры. Ситуация с талантами в Беларуси была такой: до прошлого года в компании вроде PandaDoc приходили не только белорусы, но и иностранцы – из России, Украины, Казахстана. Нам удавалось привозить людей в Беларусь. А сейчас это невозможно. Мы наблюдаем отток талантов.

**– Аркадий Добкин, основатель компании EPAM, в интервью интернет-порталу dev.by оценил отток из белорусской IT-индустрии после выборов-2020 в 10-15 процентов. Вы с такой оценкой согласны?**

– Я не могу посчитать. Да и важно не сколько людей уезжает, а какого уровня специалисты уезжают.

**– Вам удалось найти новые таланты благодаря той программе помощи силовикам, о которой вы заявляли?**

– Не думаю. Все-таки это были не связанные с бизнесом вещи. Моя инициатива с компанией не была связана вообще никак. Она закрыта, и тема закрыта.

**– А тема белорусского IT для вас лично закрыта? После того, что произошло с компанией в Минске?**

– В целом да. Если в Беларуси изменится ситуация, с радостью будем инвестировать в регион, но пока я не вижу каких-то перспектив.

*(DW)*

ФАКТ

# Якое пакаранне панесла за надпіс «БЧБ жыве» 19-гадовая віцебская студэнтка

*У судзе Кастрычніцкага раёна Віцебска разгледжана крымінальная справа паводле арт.341 КК («Апаганьванне збудаванняў і псаванне маёмасці») у дачыненні да былой студэнткі віцебскага «мастграфа» **Юліі Алейнік.** Яна абвінавачана ў тым, што на бетоннай трубе каналізацыйнага калектара напісала 7 літар: «**БЧБ жыве».***

Раней Юлію адлічылі з трэцяга курса мастацка-графічнага факультэта Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта.

Паводле матэрыялаў следства, раніцай 30 мая 2021 года дзяўчына зрабіла пры дапамозе аэразольнага балончыка з фарбай залацістага колеру надпіс «БЧБ жыве» на каналізацыйным калектары, размешчаным на эстакадным пераходзе паміж вуліцай Праўды і праспектам Фрунзэ над ручаём Дунай.

Сваімі дзеяннямі, на думку пракурора **Ю.Лазарэнкі**, дзяўчына *«знізіла эстэтычныя характарыстыкі гэтай маёмасці, што пацягнула неабходнасць ліквідавання названых надпісаў шляхам зафарбоўвання»*.

Прычыненая шкода складае 28 рублёў 17 капеек. Грошы пайшлі на паліва для аўтамабіля і на заробак маляра, а таксама – на набыццё 6 кілаграмаў акрылавай фарбы.

Адвакат абвінавачанай выказаў сумненні наконт таго, што на зафарбоўванне невялікага ўчастка трубы магло пайсці аж 6 кілаграмаў фарбы. Паводле ягоных дадзеных, гэтага хапіла б, каб зафарбаваць 24 квадратныя метры паверхні. Надпіс жа займаў менш за 1 метр. Адвакат заявіў хадайніцтва аб выкліку ў суд маляра, які зафарбоўваў надпіс. На думку абаронцы, прычыненая шкода нашмат завышана.

Суддзя **С.Кіндзеева** паабяцала «падумаць» аб хадайніцтве і абвясціла перапынак. Але ўжо назаўтра быў вынесены вердыкт: штраф памерам 2610 рублёў.

Юлія Алейнік цалкам прызнала сваю віну. З 6 па 8 ліпеня яна знаходзілася ў віцебскім ізалятары па гэтай справе. Апроч таго, у жніўні 2020 года яе затрымлівалі ва Ушачах за распаўсюджванне улётак з надпісам «Несумленныя выбары». Тады дзяўчыну таксама аштрафавалі.

Юлія Алейнік вучылася вельмі добра, мела выдатныя адзнакі на экзаменах. Пасля выключэння з ВНУ дзяўчыну выселілі з інтэрната.

БЛІЦ-КАМЕНТАРЫЙ

## Праравала трубу…

Звычайна каналізацыйныя трубы закопваюць пад зямлю, каб не псаваць гарадскіх пейзажаў. А вось у Віцебску па незразумелых прычынах калектар (так бы мовіць, галоўнае рэчышча) каналізацыі Кастрычніцкага раёна разлёгся на паверхні. Непрывабны з выгляду, месцамі зарослы мохам, ён уяўляе сабой вартае жалю відовішча. Але, як выглядае, мясцовым чыноўнікам вока асабліва не муляў. У іх, відаць, быў адзіны клопат – каб той калектар не праравала…

А вось маладая мастачка, студэнтка мастацка-графічнага факультэта Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П.Машэрава **Юлія Алейнік** вырашыла той шэра-зялёны калектар трохі эстэтызаваць, а дакладней выкарыстаць яго ў ідэйным плане. І напісала на ім фарбай з балончыка «БЧБ жыве». Жыве, маўляў, нават на каналізацыйнай трубе. Жывучы, як мох… І хто мог падумаць, што сем някідкіх літар абыдуцца ёй вельмі дорага, як быццам яна тую трубу ўзарвала з усімі выцякаючымі, так бы мовіць, наступствамі.

Суд Кастрычніцкага раёна Віцебска ўбачыў у дзеяннях юнай мастачкі апаганьванне збудаванняў і псаванне маёмасці (так!). Хоць каналізацыйная труба – не храм, не нейкі сакральны помнік, як яе можна апаганіць? Што да псавання, то ўладальнік трубы – «Віцебскводаканал» – выставіў парушальніцы, трэба прызнаць,




больш-менш рэальны рахунак – усяго 28 рублёў з капейкамі. Прыйшоў маляр, за пяць хвілін зафарбаваў надпіс – вось і ўсё. На вуліцах нашых гарадоў такіх маляванак-замаляванак тысячы, і нічога яны не апаганьваюць.

Але «БЧБ жыве» – апаганьвае і псуе! Так вырашыла суддзя **Сняжана Кіндзеева** і ўляпіла дзевятнаццацігадовай студэнтцы штраф у памеры ажно 2610 рублёў. Амаль у 100 разоў (!) больш за ўчыненую шкоду. Відаць, каб усе не зусім законапаслухмяныя грамадзяне запомнілі: труба з фекаліямі недатыкальная. Як Тадж Махал, Калізей ці мінскі помнік гарадавому. Хай сабе спакойна і далей мохам абрастае.

Студэнтку 3-га курса Юлію Алейнік адлічылі з універсітэта. Вядома ж, не толькі за «апаганеную» трубу, а і за ўдзел у мірных пратэстных акцыях. Як быццам яна не мае права адкрыта выказваць сваю грамадзянскую пазіцыю. Што, Канстытуцыя забараняе? Не. Нейкія законы? Таксама не. Дык чаму два гады паспяховай вучобы, мары пра дыплом і прызнанне мастака аказаліся перакрэсленыя размашыстым подпісам рэктара **Валянціны Багатыровай**? Дарэчы, загад аб адлічэнні яна падпісала яшчэ да рашэння суда па «апаганенай трубе». Так, мабыць, Валянціна Васільеўна вырашыла змагацца са студэнцкім вальнадумствам, дапільноўваць выкананне спушчаных зверху ідэалагічных установак. На жаль, атрымаць ад яе каментарый мне так і не ўдалося – рэктарская прыёмная абыякавым, нібы аўтаадказчыка, голасам паўтарала: «Рэктар на совещании».

Не ведаю, якія праблемныя пытанні абмяркоўваліся на той падазрона доўгай нарадзе. Але для мяне відавочна: далёка не ўсё ў парадку ва ўніверсітэце, дзе студэнтаў выганяюць за іншадумства, за надпіс на каналізацыйнай трубе.

Пра тую трубу, не толькі віцебскую, дакладней пра аварыю на ёй, калісьці вельмі трапна напісаў Ніл Гілевіч: *«Так, усе ужо ведаюць, што ў Беларусі / гадоў, можа, з дваццаць таму / трубу разарвала – і справіцца / з гэтай аварыяй страшнай / няма ў нас каму. / Дык гоніць і гоніць, / і прэ, і несе, і фугуе, / і ўсё залівае наўсцяж – / такім залівае, што часам дыхнуць немагчыма… / О Госпадзе Божа ты наш!»*

Народны паэт сказаў па-народнаму проста і ясна. Калектарную трубу дзяржаўнай ідэалогіі ў нашай краіне сапраўды праравала. І дзе знайсці надзейнае заткала, каб яе заткнуць, бо дыхаць сапраўды ўжо немагчыма?..

**Антон ЗАГОРСКІ.**

Народная Воля

http://www.nv-online.info

1 КАСТРЫЧНІКА 2021 г.

SOS!

*Беларускі металургічны завод у Жлобіне запазычыўся па кароткатэрміновых крэдытах на 3,8 мільярда рублёў, гэта на мільярд больш, чым было год таму. Па доўгатэрміновых крэдытах завод завінаваціўся на 1,2 мільярда рублёў, што на 164 мільёны больш у параўнанні з пазамінулым годам.*



# БАНКРУЦТВА?

БЕЗ КАМЕНТАРЫЯЎ

# Выйшлі на волю і... маўчаць

*Пару дзён таму стала вядома, што рабочыя прадпрыемства «Гродна Азот» **Андрэй Башан** і **Вадзім Яфіменка**, якія былі затрыманы сілавікамі, пасля допытаў апынуліся на волі.*

Вядома ж, узнікае пытанне: а з якой нагоды яны правялі некалькі сутак за кратамі? Вадзім Яфіменка на просьбу «Народнай Волі» распавесці пра яго затрыманне і вызваленне коратка адказаў, што ніякіх каментарыяў даваць не будзе, і адразу паклаў слухаўку.

Андрэй Башан наогул на тэлефанаванні не адказвае. Не выйшаў на сувязь і пасля таго, як яму былі накіраваны пісьмовыя пытанні праз месенджар.

Паколькі вышэйзгаданыя рабочыя маўчаць, то можна толькі звярнуць увагу на выказванне ў эфіры СТБ начальніка следчага ўпраўлення КДБ **Канстанціна Бычака**. Ён заявіў, што дзейнасць экстрэмісцкай сеткі «Рабочы Рух» спынена. Паводле яго слоў, прадстаўнікі «Рабочага Руху» быццам планавалі дыверсіі на «Нафтане», «Гродна Азоце», БМЗ і іншых прадпрыемствах, каб паралізаваць іх працу. Так гэта ці не – пакажа час.

Сярод тых, хто застаецца за кратамі, яшчэ чатыры азотаўцы: **Сяргей Шэлест**, **Андрэй Пагерыла**, **Уладзімір Жураўка** і **Валянцін Цераневіч**. На пачатку тыдня іх родныя ездзілі ў Мінск, каб завезці перадачы і заключыць дамовы з адвакатамі. Размаўляць з прэсай родныя затрыманых таксама не адважваюцца.

Аляксей МІХАЛЁЎ.

СКАЗАНО!

***– Целый год мрази призывали к убийству должностных лиц и вооруженному сопротивлению. И вот первая жертва. Реакция должна быть жесткой и беспощадной в рамках закона. Жесткой и беспощадной. С террористами разговоров не будет.***

***Должны быть приняты меры и к привлечению к ответственности тех, кто находится за границей и руководит этим, финансирует и организует. Каждый должен быть привлечен к ответственности, каждый. Это гибридная война в отношении нашей страны. Вечная память погибшему сотруднику и искренние соболезнования семье,* – такое высказывание депутата Палаты представителей О.Гайдукевича *появилось на днях в сетях.***



# Безгрешна ли позиция Олега Гайдукевича?

*Не будем обращать внимание на известную пропагандистскую риторику О.Гайдукевича. Но нельзя не согласиться с ним в том, что реакция на терроризм «должна быть жесткой и беспощадной в рамках закона». Остается лишь получить ответ на вопрос, имел ли убитый айтишник какое-либо отношение к терроризму. Пока о доказательной базе официальные структуры не говорят. Подождем…*

*Безусловно, «каждый (нарушивший закон. – **Ред.**) должен быть привлечен к ответственности, каждый». Но здесь сразу несколько вопросов к самому О.Гайдукевичу. И их «Народная Воля» решила задать вслух:*

**– Олег Сергеевич, в стране огромное количество тех, кто осужден за то, что, участвуя в массовых протестных акциях после 9 августа 2020 года, возможно, перешел «красную линию» и допустил нарушение законодательства. Но, скажите, почему до сих пор не осуждены те, кто пошел на явную фальсификацию результатов голосования во время президентских выборов (кстати, есть немало документальных подтверждений этого)?**

– Я неоднократно говорил, в том числе и в интервью «Народной Воле», что Александр Лукашенко выиграл эти выборы. Светлана Тихановская могла победить только во сне, поэтому не может быть фальсификаций в таком объеме, который может поставить под сомнение результаты выборов.

Лично мне о фальсификациях ничего не известно. Тихановская набрала около 10 процентов, но, считаю, даже это много.

А вообще, конечно, нужно менять избирательное законодательство. Должна быть такая Конституция, при которой, какие бы выборы ни проходили (даже самые сумасшедшие), в стране всё равно ничего не поменялось бы. Это есть и в Польше, и в некоторых других странах мира. В Польше, например, поменяется президент, но из НАТО страна всё равно не выйдет, ценности не поменяет, ничего не сделаешь, чтобы нарушить государственное устройство.

Вот и мы сейчас примем в феврале Конституцию (надеюсь, народ поддержит) и будем знать: как бы выборы ни прошли, в стране в глобальном плане ничего не поменяется. Я имею в виду фундаментальные устои общества. Геополитический курс не будет изменен.

И фильтры поставим. Ни в одной стране нет такого, что ты утром проснулся, искупался в бассейне и решил, что готов баллотироваться в президенты. Системная политика должна быть, нужно развивать партии и фракции. Ошибка государства, что мы в свое время это не развивали. Сейчас будем всё это исправлять.

**– Но вы ушли от вопроса по поводу документальных подтверждений фактов фальсификаций во время выборов, которые были представлены в том числе и на страницах «Народной Воли». Почему до сих пор не понесли наказание те члены избирательных комиссий, кто занимался противозаконными действиями?**

– Вот голосуйте за то, чтобы наша партия имела большинство в парламенте, и я тогда буду более предметно такие вопросы разбирать. Но я же в Палате представителей один от ЛДПБ.

Голосуйте за нас, конструктивно-оппозиционную партию, и я смогу разобраться с теми фактами, о которых вы говорите. Но лично мне об этом ничего не известно, я не работаю в прокуратуре.

Для меня эти выборы были законными, честными и легитимными. Но, если есть какие-то вопросы, надо разбираться.

**– Люди, которые на самом деле занимались фальсификациями, должны нести уголовную ответственность?**

– Безусловно. Нужно только увидеть и доказать, что были такие факты. Тогда я и поверю. Увижу – соглашусь. На тех участках, где я наблюдал, никаких нарушений закона не было.

**– Второй вопрос. Смерть Романа Бондаренко шокировала всю Беларусь. Почему не привлекаются к уголовной ответственности лица, имеющие прямое отношение к его захвату, нанесению ему увечий, приведших к летальному исходу? После появления в сети множества видеокадров следствие и суд должны сказать свое слово, почему они молчат?**

– Перво-наперво хочу сказать, что смерть Романа Бондаренко – это трагедия. Считаю, что виновные на самом деле должны быть установлены и наказаны. Хотя я не верю в те сливы, которые появлялись по этому делу в Сети. Как не верю ни одному слову тех, кто находится за границей. Все они работают на западные спецслужбы, ни один из них не работает на страну. Все они – предатели, и всех их нужно привлекать к уголовной ответственности.

Но я считаю, что в первую очередь в смерти Романа Бондаренко виноваты те, кто призывал выходить на улицу и что-то там решать. Кто сказал этому парню, что нужно выходить на улицу? Кто ему рассказывал про мирную улицу и мирную революцию? Да не бывает мирных улиц! Поэтому виноват Сергей Тихановский, который сейчас сидит в тюрьме, а раньше, еще до выборов, призывал выходить людей на улицу. Призывал решать судьбу страны на улице. И это он виноват в том, что сейчас люди сидят в тюрьмах, потому что политик должен нести ответственность за тех, кого призывает совершать те или иные действия. Виноваты и те, кто сейчас за границей в отелях едят икру и призывают людей выходить на улицу. Вот они все в первую очередь виноваты в смерти Романа Бондаренко.

Хотя, безусловно, по каждому уголовному делу нужно разобраться и провести расследование. Кто же против? Я только за!

**– Генеральная прокуратура Беларуси приняла решение вообще приостановить расследование уголовного дела по факту смерти Романа Бондаренко «ввиду неустановления лица, подлежащего привлечению в качестве обвиняемого».**

– Убежден, что рано или поздно это преступление тоже будет раскрыто. Нужно, чтобы всё было обнародовано, я выступаю только за это.

Но, повторюсь, виноваты в смерти парня те, кто позвал его выйти на улицу. В первую очередь их нужно привлечь к ответственности.

**– Но избивали Романа другие. И сейчас они на свободе…**

– Повторюсь: я верю, что наши правоохранительные органы разберутся по этому уголовному делу.

Алесь СИВЫЙ.

# Послесловие

Прочитав это интервью О.Гайдукевича, принципиальные читатели, вероятно, скажут: ну зачем вы связываетесь с этим одиозным человеком? Но у «Народной Воли», друзья, есть неписаное правило: выслушивать всех и давать слово всем – как тем, чьи мысли вписываются в демократический контекст, так и тем, кто придерживается иной позиции. Важно, чтобы интервьюируемый не юлил, не утверждал, что белое это черное, а черное – это белое, не использовал чисто демагогические приемы. Вот здесь и у вас, уважаемые читатели, и у нас, сотрудников редакции, к Олегу Гайдукевичу масса вопросов. Не секрет, что он ярый сторонник А.Лукашенко. И это его право. Но как можно категорически утверждать, что выборы выиграл именно его ставленник? Надо быть слепым (ничего не читать, ничего не видеть, ничего не слышать), чтобы не принимать во внимание те многочисленные нарушения, которые были допущены во время выборов. В конце концов, если исходить из положения Конституционного суда, то избирательная кампания в действительности не завершена до сих пор: Верховный суд, который должен был расставить все точки над «і», не стал по существу рассматривать жалобы кандидатов в президенты, таким образом проигнорировав заключение высшего судебного органа страны.

О.Гайдукевич безапелляционно утверждает, что С.Тихановская «*набрала около 10 процентов*» голосов. Но если, нарушая законодательство, очень многие избирательные комиссии даже не стали вывешивать протоколы итогов голосования, то можно ли вообще верить какой-то цифре?

А что значит такой пассаж: «*должна быть такая Конституция, при которой, какие бы выборы ни проходили (даже самые сумасшедшие), в стране всё равно ничего не поменялось бы*». Но ведь демократические выборы, господин Гайдукевич, как раз и предполагают возможную смену власти. Неужели вы этого не знаете?

А зачем намекать на то, что некие злые силы пытались изменить геополитический курс страны? Участники мирных акций требовали одного: вернуть украденные голоса, восстановить справедливость, наказать виновных в фальсификации при подсчете голосов.

Полагаем, цинично выглядят рассуждения интервьюируемого в связи с насильственной смертью Романа Бондаренко. Многочисленные факты свидетельствуют о том, что этот молодой человек погиб от рук конкретных лиц, и не с лучшей стороны характеризуют следственные органы, которые, по мнению широкой общественности, пытаются навести тень на плетень.

Нет смысла углубляться во многие другие явно ангажированные утверждения господина Гайдукевича. Возможно, это сделают читатели «Народной Воли». Редакция – за плюрализм, поэтому считаем, что разговор будет продолжен.

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ



## Бедаваць усё ж не варта, што няўдала легла карта

33-гадовая настаўніца, якая выхоўвае дваіх дзяцей, атрымала ў судзе два гады «хатняй хіміі» за абразу міліцыянера. Пад ягоным здымкам у тэлеграм-канале маладзіца напісала: «Я з гэтым чмом у маладосці гуляла».

Хто ў юнацтве, маладосці,
Як вакол квітнее май,
Не кахаў кагось да млосці?
Ды няма такіх, бадай.
Вось і тая маладзіца
Добра помніць, як цяпер,
Што калісьці лез сляпіцай
Закаханы кавалер.
Хоць і іншыя, канешне,
Падбівалі к ёй кліны,
Хоць былі ў душы і знешне
Больш прыгожымі яны,
З кавалерам на сустрэчы
Пагадзілася дзяўчо.
Быў асілкам ён, дарэчы,
Браў калоду на плячо.
Кавалер маўклівы гэты
Прагматычным быў, лічы:
Ён пра зоркі і планеты
Не расказваў уначы,
Гаварыў, што на пагонах
Тыя зоркі хоча мець.
І яна ад слоў ягоных
Не магла, вядома, млець.
Цалаваліся да рання,
Як хадзілі за сяло.
Ды юначае каханне
Да вяселля не дайшло.
Разышліся іх дарогі,
Як у моры караблі…
Падалася ў педагогі
(Планы гэткія былі),
Стала мамай маладзіца,
А ўчарашні кавалер
Змог да зорак даслужыцца –
Спраўдзіў колішні намер.
І калі ішлі разгоны,
Барацьба дабра са злом,
Засвяціўся твар ягоны –
Хтось, відаць, сарваў шалом.
Маладзіца «брыдкім словам»
Абазвала ў Telegram.
Быў адказ яго суровым:
– Ганьбаваць сябе не дам!
Сам палкоўнік перад строем
Зычным голасам, як гром,
Называў мяне героем,
А яна назвала чмом!
Як на людзі зараз выйсці?
Насміхацца будзе люд!
Зваў у загс яе калісьці,
А цяпер пазваў у суд.

***

На душы ў жанчыны шэра,
Думкі цяжкія наўме:
З-за былога кавалера
Жыцьме дома, бы ў турме.
Ды хоць кепска легла карта,
Бедаваць няма падстаў:
Ёй парадавацца варта,
Што сужэнцам ён не стаў…

### Калі нічога не купляць

Мы не за пазухай у Бога,
І грошай мала ці няма.
Але як не купляць нічога,
Дык цэны быццам бы дарма…

### Сапраўдны халасцяк

Хто сапраўдны халасцяк?
Я найперш сказаў бы так:
Нешматлікі посуд свой
Мые ён перад ядой…

### Эліксір жыцця

Я зусім не на пацеху
Прапаную адкрыццё:
Паміраючы ад смеху,
Падаўжаем мы жыццё.

### Сініца і журавель

Калісьці маладзіца
Казала пры патрэбе:
– Лепш у руках сініца,
Чым журавель у небе.
Цяпер іначай трошку
Трактуе думку гэту:
– Лепш родны муж у ложку,
Чым прынц, што з інтэрнэту.

### Плот

З суседам з года ў год
Жыць без скандалаў след,
І чым вышэйшы плот,
Тым лепшы твой сусед.

РЭДКІЯ ЛЮДЗІ

# Што не дазваляе жыць спакойна фермеру з-пад Гродна

*З **Раманам Мажэйкам** я планаваў пагутарыць аб папулярным зараз трэндзе – вырошчванні сельгаскультур без хімічных угнаенняў і гербіцыдаў. Аднак падчас размовы тэматыка значна пашырылася.*

### «Займаўся тым, што прыносіла прыбытак, але...»

Раман Мажэйка жыве ў вёсцы Галынка Гродзенскага раёна. Фермерствам займаецца з 2007 года. Ён пенсіянер. Мае ў арэндзе 100 гектараў зямлі, набыў некалькі трактароў, адмысловы інвентар. Спецыяльнай адукацыі не атрымаў, але большасць свайго жыцця адпрацаваў на зямлі, а таму, як сам зазначае, колькі жыве і працуе, столькі і вучыцца, бо інакш у сённяшніх умовах гаспадарку весці немагчыма.

Спрабаваў займацца і раслінаводствам, і жывёлагадоўляй – тым, што давала прыбытак, але жыццё ўвесь час уносіла свае карэктывы.

– *Пачынаў з бульбы,* – згадвае Мажэйка. – *Прывёз з Польшчы насенне, высадзіў клубні на 40 гектарах, быў небывалы ўраджай! Можаце ўявіць: здаў на крухмальны завод 3 тысячы тон бульбы на 75 тысяч долараў (у эквіваленце), а разлічыцца са мною цалкам так і не змаглі.*

Потым гадаваў свіней, меў ферму на 500 галоў і мяса здаваў на перапрацоўку. Але і гэтым доўга займацца не давялося.

– *Афрыканская чума спыніла свіны бізнес,* – уздыхае Мажэйка.

У выніку з’явілася новая тэма.




### Праблема знайсці работнікаў

Апошнія гады ва ўсім свеце адчувальна вырасла запатрабаванне на натуральныя прадукты. Гэта ўжо нават не мода, а неабходнасць. А таму зусім не дзіўна, што ў адказ на патрэбы людзей вытворцы пачалі прапаноўваць шмат розных арганічных прадуктаў.

У Беларусі таксама на паліцах крамаў прадаюць арганічную садавіну і гародніну, фермерскае малако і іншыя прадукты. Праўда, кошты на іх у 2–3 разы вышэйшыя, чым на звычайныя, але лічыцца, што яны больш карысныя.

Дзевяць гадоў таму Раман Мажэйка задумаў вырошчваць арганічныя трускалкі. Маўляў, хацелася для дзяцей і ўнукаў чыстых ягад. Пад гэтую культуру выдзеліў 10 гектараў зямлі. Насенне зноў жа набываў за мяжой, прычым браў як ранніх, так і позніх гатункаў.

– *Большасць прадукцыі забіраюць гандляры з Масквы,* – расказвае фермер. – *Ужо некалькі гадоў адзін і той жа пакупнік прысылае фуры і забірае амаль увесь ураджай. Астатнюю частку рэалізуем на гродзенскім рынку. Адным словам, са збытам праблем не маем.*

Паводле слоў спадара Рамана, ураджайнасць трускалак, якія вырошчваюцца без хімічных угнаенняў і гербіцыдаў, не саступае ураджайнасці ягад, якія прадукуюць масава. Праўда, зазначае: яго клубніцы значна смачнейшыя і карыснейшыя для чалавека, але ж вырасціць іх у некалькі разоў даражэй, чым звычайныя, з хімічнай апрацоўкай.

– *У мяне стала працуюць восем работнікаў, якія займаюцца пасадкай, праполкай,* – кажа Мажэйка. – *На збор ураджаю часам даводзіцца наймаць 30–50 чалавек.*

Фермер заўважае, што адной з праблем стала тое, што з кожным годам робіцца ўсё цяжэй знайсці людзей на збор трускалак. Сёлета, кажа, шмат ягад засталося ў полі праз тое, што не хапіла рук, каб сабраць.

Раман Іпалітавіч прызнаецца: ужо і хацеў бы кінуць вырошчванне ягад, але, маўляў, увязаўся ў гэтую справу, а цяпер спыняцца не выходзіць. Толькі апошні раз за насенне новых гатункаў, якія набываў у Іспаніі, заплаціў 8 тысяч еўра – хочаш не хочаш, а трэба ўсё гэта адпрацоўваць.

– *Канешне, рэалізацыя трускалак дае прыбытак, але гэтыя грошы цяпер вельмі хутка з’ядаюць розныя гаспадарчыя патрэбы,* – сумна заўважае фермер. – *Попыт на арганічныя прадукты ёсць, а прапанаваць іх больш і розных – не ў стане.*

### «Фермерства не мёд»

Некалькі гадоў таму была задума перавесці ўсю гаспадарку на арганічныя рэйкі. Планаваў фермер Мажэйка вырошчваць збожжавыя і бульбу без хімічных угнаенняў і гербіцыдаў. Пачаў рыхтаваць зямлю пад гэта, але атрымаць сертыфікат аказалася праблематычна.

– *Тады падобныя сертыфікаты выдавалі ва Украіне. Але загнулі цану ў 6 тысяч еўра – я падумаў і адмовіўся,* – згадвае спадар Раман.

Тады яшчэ ён сам ездзіў на BMW, а цяпер у карыстанні толькі бус васьмідзясятых гадоў выпуску. А таму і пра арганічную гаспадарку думак ужо няма. Бо яна патрабуе значных людскіх рэсурсаў і вялікіх грашовых укладанняў.

– *У апошнія гады так усё даражэе, што проста дзіву даешся!* – эмацыйна заўважае фермер. – *Паліва, запчасткі... Трактар за дзень 200 літраў саляркі спальвае. Толькі ў фонд сацыяльнай абароны за сваіх работнікаў штоквартальна плачу 4 тысячы рублёў. Сёння фермерства не мёд, асабліва калі хочаш займацца арганічным раслінаводствам.*

### Чаму так?

Задумаў фермер узяць новы малы трактар у лізінг, а каб вырашыць гэтае пытанне, папер патрэбна столькі, што партфель не зашпільваецца. І трактар даводзіцца купляць не беларускі, а кітайскай зборкі, бо па цане велізарная розніца.

– *Ну а што рабіць, калі беларускі трактар каштуе 40 тысяч долараў, а такі ж кітайскі – 15 тысяч?* – задае рытарычнае пытанне спадар Раман.

Падобная сітуацыя і з запчасткамі для тэхнікі. Нядаўна давялося замяніць гідраразмеркавальнік у трактары, то беларускі каштуе 3 тысячы рублёў, а зроблены ва Украіне і прывезены ў Беларусь – 1,5 тысячы. Купіў украінскі.

Летам, каб падключыць палівачныя агрэгаты, патрэбна шмат электраэнергіі. Электралінія праходзіць побач з полем. Дастаткова паставіць адзін слуп, каб замацаваць на ім трансфарматар, але гэта невырашальная праблема, таму вымушаны выкарыстоўваць бензінавыя генератары, якія вельмі затратныя.

Мы сустрэліся ў полі – спадар Раман сам апрацоўвае яго на трактары. І гэта пры тым, што пару месяцаў таму перанёс аперацыю на сэрцы.

– *Няма каму даверыць дарагую тэхніку,* – ён усміхаецца, але вочы сумныя. – *Тут ёсць трактарысты, але такія, што за рулём могуць і заснуць.*

Дарэчы, у Мажэйкі двое дарослых сыноў, напачатку яны працавалі ў бацькі на гаспадарцы, але апошнія гады, калі заробкі зусім упалі, вымушаны былі з’ехаць у горад.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

**На здымку: фермер Раман Мажэйка.**

АНТЫРЭКОРД

# Два дні таму ў Беларусі адбылося 29-е павышэнне цэн на аўтамабільнае паліва

*Цяпер кошт 1 літра бензіна АІ-92-К-5 Еўра – 1 рубель 99 капеек, АІ-95-К-5 Еўра – 2 рублі 9 капеек, АІ-98-К-5 Еўра – 2 рублі 31 капейка, ДП – 2 рублі 9 капеек.*



